# Даклад С.С. ШУШКЕВІЧА

(Працяг. Пачатак на с.1)

Зазначу, што антырыначны закон аб абароне спажывецкага рынку быў прыняты 25 кастрычніка 1990 г., і спатрэбілася больш двух гадоў, каб спазнаць яго шкоду.

Эканамічная дэзінтэграцыя дасягнула апагея пасля ўвядзення Расіяй розных цэн для сваіх пакупнікоў і чужых. У спалучэнні з мытневымі зборамі па пэўных таварах мы сталі неканкурэнтаздольнымі і на рынку Расіі. Цяпер, нават калі цэны на сыравіну выраўняюцца і стануць блізкімі да сусветных, ды адменяцца мытневыя зборы, нашым вытворцам будзе цяжка вярнуць страчаныя пазіцыі. Прамысловасці прычынены цяжкі ўрон не столькі высокімі цэнамі на рэсурсы /яны раслі і будуць расці/, колькі рознымі цэнамі, а значыць,рознымі выдаткамі і рознай канкурэнтаздольнасцю.

Неадваротнасць рэфарміравання была зразумела ўсім. Аднак урад рэспублікі не павёў эканоміку па шляху рэфарміравання, не распачаў прагматычную палітыку адаптацыі да новых абставін, а ўсё наіўна спадзяваўся на зварот у мінулае: "будзе саюз, і ўсё вернецца", "будзе калектыўная бяспека -- стане лепей", "будзе рублёвая зона, і ўздыхнём лягчэй". Вынік -- развал эканомікі, крах крэдытна-фінансавай сістэмы, імклівы рост інфляцыі і катастрафічнае зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва Беларусі.

За апошнія гады нацыянальны даход і прамысловая вытворчасць Беларусі зменшыліся на чвэрць, сельскагаспадарчая вытворчасць -- на 20%, прадукцыя жывёлагадоўлі скарацілася на сорак працэнтаў. У 1992 г. спад вытворчасці ў прамысловасці склаў 9,4%, на 1993 год урад прагназіраваў зніжэнне аб'ёму вытворчасці на 3%, фактычны спад за 9 месяцаў склаў 14,6%. Самы вялікі спад у бягучым годзе адбыўся ў паліўнай прамысловасці -- на 44,9%, у нафтаперапрацоўчай -- на 44,7%, у хімічнай і нафтахімічнай -- на 19,6%. Гаспадарка рэспублікі апынулася ў цяжкім энергетычным крызісе. Толькі ў жніўні з-за недахопу энерганосьбітаў не выраблена прадукцыі на 64,2 млрд.руб. Зніжэнне паступлення ў рэспубліку нафты абумоўлена пераважна тым, што выканаўчая ўлада да самага апошняга моманту рабіла ўсё, каб зберагчы манаполію на нафтапрадукты. Урад вымушан быў адступіць толькі пад націскам Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Але давер камерцыйных структур да ўрада ўжо падарваны.

Органы дзяржаўнага кіравання недастаткова засяродзілі ўвагу на недапушчальна вялікай энергаёмкасці вытворчасці. Рэспубліка жыве марнатраўна. Аб'ёмы вытворчасці зменшыліся, а матэрыялаёмкасць і энергаёмкасць узраслі. У той жа час у Венгрыі, блізкай да нас па эканамічных параметрах, спажыванне нафты за пяць гадоў зменшылася ў 2,5 раза. Сёння мы адносімся да самых энергаёмкіх дзяржаў свету.

Трэба рашуча браць курс на энергасберажэнне. Прыйшоў час лічыць, што і колькі каштуе. Неабходна канкрэтызацыя Нацыянальнай энергетычнай праграмы для новых эканамічных умоў. На жаль, за апошнія гады амаль нічога не зроблена па ажыццяўленню жорсткага рэжыму эканоміі. Замест гэтага створаны чарговы Камітэт па энергазберажэнню пры Савеце Міністраў. А чаму гэтым не можа і не павінна займацца Міністэрства энергетыкі -- не зразумела? А як з другімі рэсурсамі? Можа ўрад будзе ствараць камітэты па зберажэнню нафты, газу, металу, гумы, каб чарговая група чыноўнікаў утульна ўладкавалася і выпрацоўвала парады, якому прадпрыемству па якім тарыфе і што спажываць? Відавочна, што гэтыя людзі не пойдуць на ўкараненне рыначных механізмаў, бо для рыначнай сістэмы яны самі проста не патрэбны.

Далей С.Шушкевіч прааналізаваў, як рэалізаваны ў нас важнейшыя складаючыя рыначных рэформ, заканадаўча аформленыя Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і прадэкларававаныя ў шматлікіх праграмах урада. На яго думку, недастаткова абгрунтаваныя рашэнні па пытаннях грашовага абарачэння і крэдытавання наносяць найбольшы ўрон эканоміцы. Без стабілізацыі грашова-крэдытнай сістэмы, без прадухілення інфляцыі на эканоміку цяжка ўздзейнічаць якімі-небудзь рычагамі. Стрыжнем палітыкі фінансавай стабілізацыі наш урад, услед за Расіей, выбраў лібералізацыю цэн. Але ў адрозненне ад Расіі, дзе гэта палітыка спалучылася з дэманапалізацыяй сферы гандлю, у нас адбываецца толькі павышэнне цэн. Больш таго, з-за датацый замест адраснай падтрымкі спажыўцоў, павялічваецца дэфіцыт бюджэту. Напрыклад, яўныя і скрытыя датацыі сельскай гаспадарцы ў гэтым годзе, па падліках экспертаў, склалі амаль трыльён рублёў. Але ці дайшлі яны да вытворцаў?

З мэтай правядзення больш-менш самастойнай фінансавай палітыкі ўрад увёў разліковыя білеты як дадатковыя наяўныя грошы, якія пасля ўвядзення Расіяй уліку баланса безнаяўных разлікаў фактычна сталі нацыянальнай грашовай адзінкай, і можна было па прыкладу Літвы, Латвіі распрацаваць комплекс мерапрыемстваў па стабілізацыі грашовага абарачэння і спынення гіперінфляцыі. Дакладчык канстатаваў, што гэтая спроба з-за пралікаў крэдытнай эмісіі, слабай экспартна-імпартнай палітыкі, дрэннай кантралюемасці банкаўскіх структур, парушэнняў у выкананні бюджэта РБ, была няўдалай і толькі прадэманстравала наш нізкі рыначны прафесіяналізм. Толькі ў пачатку года было выдана крэдытаў амаль на палову трыльёна рублёў -- гэта прыкладна 50% валавага нацыянальнага дахода.

Як жа размяркоўваліся крэдыты, пад якія працэнты? Так, у мінулым годзе крэдыты выдзяляліся ў сярэднім пад 17,4% гадавых, а інфляцыя па аптовых цэнах склала 4200%, у бягучым годзе крэдыты ў сярэднім выдзяляюцца пад 68,3%, але нехта плаціць 210%, а нехта атрымлівае падарункі. С.Шушкевіч спаслаўся на прыклады шматлікіх парушэнняў заканадаўства, прадастаўленыя Генеральным пракурорам РБ і Кантрольнай палатай.

Камерцыйныя банкі, атрымаўшы ў гэтым годзе львіную долю, каля 686 млрд.руб. цэнтралізаваных крэдытаў Нацбанка, практычна не выдалі вытворцам доўгатэрміновых і сярэднетэрміновых крэдытаў. Ды і сам Нацыянальны банк ад сумы цэнтралізаваных крэдытаў выдзеліў прадпрыемствам 0,6%, а органам кіравання -- 32%. Працягваецца практыка пакрыцця дэфіцыта бюджэту за кошт эмісіі грошаў. Нягледзячы на заканадаўчую базу /Закон Рэспублікі Беларусь "Аб каштоўных паперах і фондавых біржах"/, Міністэрства фінансаў зацягвае выпуск каштоўных папер, што магло б стварыць другасны фінансавы рынак і станоўча ўздзейнічаць на працэс інфляцыі.

Вынік "фінансавай стабілізацыі" той, што інфляцыя дасягнула 30% у месяц, а агульны доўг дзяржавы ўзрос да памеру бюджэту.

Затым дакладчык прааналізаваў пытанні знешнеэканамічнай дзейнасці. Крызіс фінансавай сістэмы, на яго думку, паглыбляе слабая экспартна-імпартная палітыка.

Нацыянальны банк сведчыць, што агульны доўг рэспублікі па знешніх крэдытах і даўгах прадпрыемстваў на 1 кастрычніка 1993 г. складае больш 1 млрд.долараў, у тым ліку дзяржавам, якія раней уваходзілі ў СССР -- 499,4 млн.долараў /Расіі -- 484,4, Казахстану -- 7,4, Літве -- 1,0/ іншым дзяржавам -- 506,7 млн.долараў, ліміт жа на 1993 г., устаноўлены ВС -- 710 млн.долараў. Прэзідыум Саўміна на наступны год аб'явіў жадаемы ліміт доўга 2 млрд.долараў.

Сальда знешняга гандлю на 1 кастрычніка 1993 г. за межы былога СССР складае -30,6 млн.долараў. Яшчэ ў 1992 г. яно было +209,3 млн.долараў. Прычына -- зніжэнне экспарту амаль на 26% пры зніжэнні вытворчасці на 14,6%. За апошнія два гады экспарт за межы СНД знізіўся на 1 млрд.долараў ЗША як у натуральным выражэнні, так і з-за зніжэння сярэдняй цаны экспартнага тавару. Значная частка экспартных тавараў рэалізуецца за мяжу па цэнах значна ніжэйшых за сусветныя, у тым ліку трактары і калійныя ўгнаенні.

Сённяшнія нашы фінансава-эканамічныя праблемы абумоўлены, як падкрэсліваецца ў дакладзе, адсутнасцю стратэгіі ліквідацыі дысбалансу гандлю. А стратэгія простая. Старшыня Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Лаўрыновіч сфармуляваў яе так: "Трэба павялічыць экспарт у Расію -- будзе і нафта, і газ". Нерэалістычныя надзеі на нярынкавыя адносіны, адсутнасць усякай экспартнай стратэгіі прывялі ў жніўні--верасні да ліхаманкавых спроб разлічыцца за кошт крэдытаў МВФ, валютнага фонду рэспублікі.

Затым дакладчык выклаў свой пункт гледжання на пытанні прыватызацыі. Працай і потам некалькіх пакаленняў беларускага народу стваралася агульнанародная ўласнасць, падкрэсліў ён, менавіта агульнанародная, а не дзяржаўная. Як сцвярджае дзеючая Канстытуцыя Беларусі, сапраўдным уласнікам з'яўляецца народ, дзяржава толькі абараняе і стварае ўмовы для яе павелічэння.

Прынцып народнай прыватызацыі, г.зн. бясплатнай перадачы народу часткі ўласнасці, закладзены яшчэ ў прынятых у 1991 г. канцэптуальных палажэннях раздзяржаўлення і прыватызацыі. Прынцып народнай прыватызацыі абумоўлен патрабаваннямі сацыяльнай справядлівасці, неабходнасці ўдзелу ў прыватызацыі ўсіх грамадзян Беларусі, жаданнем стварыць максімальна шырокі пласт уласнікаў, навучыць насельніцтва пачаткам рыначнай эканомікі, неабходнасцю з дапамогай дывідэндаў падтрымаць у пераходны перыяд сацыяльна неабароненыя пласты насельніцтва.

Пасля паўтарагадовых дэбатаў прыняты Закон "Аб імянных прыватызацыйных чэках", які дае прававую аснову бясплатнай народнай прыватызацыі. Разам з пакетам палажэнняў аб ацэнцы каштоўнасці, аб аўкцыёнах, конкурсах, аб камісіі па прыватызацыі, распрацаваных выканаўчай уладай, гэты закон мог бы скласці поўны пакет прыватызацыйных дакументаў для хуткай народнай прыватызацыі, але пастанова СМ РБ "Аб мерах па рэалізацыі Закону РБ "Аб імянных прыватызацыйных чэках", адкладвае выдачу чэкаў да ліпеня 1994 г. Дакладчык лічыць, што гэта недапушчальна позна. На сёння прыватызавана толькі 2,68% балансавага кошту прадпрыемстваў.

А калі не ідзе народная прыватызацыя, дык ідзе скрытая прыватызацыя, называемая ў народзе прыхватызацыяй. С.Шушкевіч спаслаўся на прыклады, якія выяўлены Кантрольнай палатай, многія з іх прыводзіліся ў прэсе. Наогул, як паведаміў генеральны пракурор, трэць прыватызаванай маёмасці ў 1991-92 гг. была перададзена бясплатна /і не за ваўчары/.

Закліку "Хапай што можаш", падкрэсліваецца ў дакладзе, трэба паставіць заслон і падрыхтаваць адпаведныя законы. На жаль, не дапрацаваны законы, абараняючыя агульнанародную ўласнасць. Не зразумела, хто ў рэспубліцы гаспадар уласнасці, а хто толькі ёй распараджаецца. Толькі па патрабаванню Кантрольнай палаты ўрад прыняў некаторыя дакументы, рэгулюючыя распараджэнне дзяржаўнай маёмасцю. Недасканалая нарматыўная база для дзяржаўных прадпрыемстваў і прадпрыемстваў са змешанай формай уласнасці дае неабмежаваныя магчымасці для злоўжыванняў. Напрыклад, аналіз існуючага парадку размеркавання чыстага прыбытку, які застаецца ў распараджэнні змешанага прадпрыемства, сведчыць аб неэфектыўным, а, магчыма, злачынным распараджэнні дзяржмаёмасцю, перададзенай у статутныя фонды.

С.Шушкевіч не абышоў увагай і пэўныя станоўчыя вынікі прыватызацыі. У прыватнасці, як адзначаецца ў дакладзе, ідзе фарміраванне элементаў рыначнай інфраструктуры, набіраюць сілы новыя формы гаспадарання, паступова пачынае працаваць рыначны механізм попыту і прапаноў. Пакрыху развіваецца малы і сярэдні бізнес. Зарэгістравана амаль 30 000 малых прадпрыемстваў, каля 250 акцыянерных таварыстваў, амаль 4000 кааператываў. Створана каля 1000 сумесных прадпрыемстваў, з іх 185 займаюцца вытворчасцю.

Але мала прыватызаваць прадпрыемствы, неабходна стварыць умовы для развіцця прадпрымальніцтва, стварыць рыначныя інстытуты. А што атрымліваецца? Большасць прадпрымальнікаў лічыць, што станаўленню прыватнага сектара актыўна перашкаджаюць структуры выканаўчай улады, свядома ствараючы ўмовы для нераўнапраўнай канкурэнцыі з наменклатурным бізнесам. У выніку лягчэй устаюць на ногі прадпрыемствы ў галінах, дзе не трэба асаблівай кваліфікацыі, не трэба вялікіх пачатковых інвестыцый /гандаль, паслугі і г.д./. Але гэтыя галіны мінімальна ўздзейнічаюць на агульную сітуацыю ў эканоміцы і не даюць патрэбных структурных змен.

Значная ўвага засяроджана ў дакладзе на пытаннях, звязаных з эфектыўным выкарыстаннем дзяржаўнага сектара эканомікі. С.Шушкевіч лічыць мэтазгодным увесці кантрактную сістэму гаспадарання па прыкладу Кітая. Яна вызначае жорсткую залежнасць аплаты працы кіраўнікоў ад канчатковых вынікаў. Атрымаў прыбытак -- маеш добрую зарплату, а не стрымаў абяцанне аб нарматыве прыбытку -- уступі месца другому. Сёння, па дадзеных Дзяржкамстата, 437 стратных прадпрыемстваў, агульная сума страт -- 30 млрд.руб. Нават прадпрыемствы, забяспечваючыя прыбытак, трымаюцца не за кошт павышэння эфектыўнасці і рэнтабельнасці /яна ўпала амаль на трэць толькі ў мінулым годзе/, а за кошт павышэння цэн.

Сур'ёзна непакоіць праблема інвестыцый: асноўныя фонды прамысловасці аднаўляюцца дрэнна. Толькі пятая частка прыбытку /каля 40 млрд.руб./, атрыманага прадпрыемствамі ў 1992 годзе, была накіравана на ўзнаўленне. Негатыўныя вынікі для прадпрыемстваў мела зацягнуўшаяся пераацэнка асноўных фондаў, якая павысіла іх кошт толькі ў 16,4 раза, калі індэкс інфляцыі ў 1992 г. па аптовых цэнах склаў 42 разы. Доля амартызацыйных адлічэнняў у фонд накаплення зменшылася з 85% у 1990 годзе да 12% у 1992 годзе. Для аднаўлення інвестыцыйных рэсурсаў прадпрыемстваў неабходна спрасціць парадак выкарыстання правоў на паскораную амартызацыю, заканадаўча гэта норма дзейнічае, аднак парадак атрымання дазволу на выкарыстанне яе вельмі ўскладнёны.

У цяжкім фінансавым становішчы знаходзіцца значная частка калгасаў і дзяржгасаў. За 1992 год 8 з іх закончылі год са стратамі, за 8 месяцаў бягучага года -- 65. Не лепшае становішча ў фермерскіх гаспадарках. Адна з прычын такога становішча -- крызіс энергарэсурсаў, адсутнасць у мінулым годзе парытэту цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю.

Далей С.Шушкевіч адзначыў, што разгледжаныя Прэзідыумам Вярхоўнага Савета тройчы за апошнія гады пытанні ажыццяўлення зямельнай рэформы ў рэспубліцы садзейнічалі некаторай актывізацыі практычнай дзейнасці ў гэтым напрамку. На 1 ліпеня 1993 г. створана 2670 сялянскіх /фермерскіх/ гаспадарак. У сярэднім на адну фермерскую гаспадарку прыпадае каля 20 га.

На жаль, выканаўчыя ўлады ўсіх узроўняў не прыкладаюць дастаткова намаганняў для выканання законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета па пытаннях зямлі, прыярытэтнага сацыяльна-культурнага і эканамічнага развіцця сяла і аграпрамысловага комплексу, сялянскіх /фермерскіх/ гаспадарак.

Акрэсліваючы асноўныя прычыны крызісу эканомікі, Старшыня Вярхоўнага Савета сярод іншых выдзеліў нашу тэхналагічную адсталасць. Ва ўмовах лібералізацыі знешнеэканамічных зносін і набліжэнні цэн на рэсурсы да сусветных яна прывяла да неканкурэнтаздольнасці значнай часткі нашай прадукцыі і рэзкага скарачэння магчымасцей імпарту рэсурсаў. Працэс будзе паглыбляцца, бо праз год-два расійскі рынак нічым не будзе адрозніваца ад сусветнага.

Другую прычыну крызісу С.Шушкевіч бачыць у рэзкім неабарачальным скарачэнні ваенных заказаў і абумоўленай ім канверсіі абароннай прамысловасці.

Сітуацыя ўскладняецца з-за крызісу фінансавай сістэмы. Яму спрычыніліся як знешнія фактары, так і дапушчаныя памылкі пры ўвядзенні нацыянальных разліковых білетаў, нярынкавая крэдытная палітыка, прамаруджанні пры стварэнні рынку грашовых сродкаў краін СНД. Няўдалыя спробы адміністрацыйнымі метадамі рэгуляваць разлікі паміж краінамі СНД прывялі да адтоку з рэспублікі "мягкіх валют" і ў выніку да іх дэфіцыту пры ўзаемаразліках. Па ацэнках экспертаў, вываз капіталу за межы РБ складае некалькі мільярдаў долараў. Урад якіх-небудзь разлікаў з гэтай нагоды не публікаваў. Адміністратыўныя заклікі да дэкларавання капіталаў у замежных банках ні рублёў, ні долараў не вернуць. Трэба стварыць рынкавыя ўмовы для вяртання капіталаў.

Адна з прычын крызісу,на думку дакладчыка, ў самаўхіленні ўрада ад вырашэння праблем вытворчага характару, слабым кантролі за дзяржаўнай маёмасцю і прыбыткам, атрымліваемым дзякуючы ёй. Здаецца, што ўрад замнога займаўся напісаннем тэарэтычных праграм перабудовы прамысловасці, канверсіі, развіцця прадпрымальніцтва і палітычных дэкларацый тыпу "будзе Саюз, будзе ў кватэрах цёпла". Большасць гэтых дакументаў адарвана ад канкрэтных вытворцаў, у іх не закладзены механізмы рэалізацыі намераў. Утварыўшы шматлікія надміністэрскія ўпраўленні і дэпартаменты, Саўмін абмежаваў уладу міністраў, якім паўнамоцтвы надаў ВС. Тым самым размылася персанальная адказнасць за даручаную справу. А калі не кожны кіраўнік дакладна ведае за што адказвае і перад кім, ствараюцца спрыяльныя ўмовы для ўседазволу і бясчынстваў чыноўнікаў, шлях да рыначных адносін ускладняецца, а прастора для карупцыі пашыраецца.

Трэба зазначыць, што справы былі б яшчэ горшыя, калі б Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя не ўзяла на сябе цяжар праблем каардынацыі і эканамічнага рэгулявання на ўзроўні прадпрыемстваў.

Вынік сумны: фактычна не выкананы ні адзін з пунктаў Дзяржаўнай праграмы Беларусі па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва, не ўдалося пераадолець галоўныя негатыўныя тэндэнцыі ў эканамічным і сацыяльным развіцці рэспублікі, урад не знайшоў сіл і рашучасці пайсці па сапраўды рыначнаму шляху.

Зараз эканоміка падышла да той мяжы, за якой рэзкі спад вытворчасці, масавае беспрацоўе, гіперінфляцыя.

Урад не рашыўся ісці да рынку, а да апошняга моманту накіроўваў усе намаганні на "восстановление нарушенных связей", маючы на ўвазе пераважна не гаспадарчыя. Такі курс затармазіў рэформы, расцягнуў на некалькі гадоў шок ад цэнавай палітыкі, не падтрыманай стварэннем рынку малых вытворцаў, і зусім не даў тэрапіі прамысловасці. Супярэчлівасць, разгубленасць, павольнасць, нават млявасць урада павергла саму ідэю рэформ дыскрэдытацыі. Не курс рэформ прывёў да поўнага развалу эканомікі,падкрэсліў С.Шушкевіч, а адсутнасць іх.

Цяпер у даведзенай да поўнага краху эканоміцы ліхаманкавае правядзенне мер, надыктаваных МВФ, можа прывесці да нацыянальнай катастрофы. Дакладчык лічыць, што патрабуецца сур'ёзнае кадравае абнаўленне ва ўрадавых структурах, адказных за эканамічную рэформу. Сёння ў Беларусі дакладна праявіліся прафесіяналы ў галіне рыначнай эканомікі з ліку дырэктараў прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў, парламентарыяў, якія здольны рэалізаваць кардынальныя рыначныя рэформы.

(Заканчэнне на с.5)



# Даклад С.С. ШУШКЕВІЧА

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1,4)*

У тым, што гэта не зроблена да гэтага часу, ёсць віна і Прэзідыума ВС, і яго Старшыні, падкрэсліў Станіслаў Станіслававіч. Нельга, на яго думку, у гэтай сітуацыі спасылацца на ўрадавую большасць у Вярхоўным Савеце. Трэба было больш намаганняў прыкласці, каб у рамках Канстытуцыі ўзмацніць кантроль за дзейнасцю ўрада, знайсці механізмы ўздзейнічання на яго эканамічную палітыку і персанальны склад.

Затым дакладчык выказаў свае меркаванні аб неадкладных мерах па рэфарміраванню, якія павінны стаць асновай эканамічнай праграмы і бюджэту на 1994 год. З іх ён акцэнтаваў увагу на наступных:

1/ паскарэнне працэсу стварэння прыватнага сектара эканомікі шляхам неадкладнай прыватызацыі;

2/ захаванне флагманаў прамысловасці;

3/ стварэнне дзеючай і стабільнай крэдытна-фінансавай сістэмы, уключаючай канвертацыю ўсіх грашовых адзінак былых рэспублік СССР;

4/ актыўная экспартная палітыка і стварэнне максімальна шырокага мытневага саюзу;

5/ стварэнне сістэмы сацыяльнай абароны, інфраструктуры падтрымкі і працаўладкавання, у тым ліку на грамадскіх працах.

Адзначаючы прыярытэты па першаму накірунку, С.Шушкевіч спаслаўся на дзяржаўную праграму прыватызацыі, згодна з якой дзве трэці агульнанароднай уласнасці трэба вярнуць народу ў прыватную ўласнасць, пры гэтым у 1993 г. прыватызаваць дзесятую, а ў 1994 г. ужо пятую частку. На самой справе за тры гады прыватызавана толькі 1/35 частка.

Рашэнне раздаць бясплатна частку ад прыватызуемай маёмасці неабходна не марудзячы выконваць і весці народную прыватызацыю строга паралельна з іншымі яе формамі. Чаму частку прыватызуемай уласнасці вырашана направіць на продаж за грошы? Прадпрыемствы маюць патрэбу ў мадэрнізацыі, інвестыцыі ўзяць няма адкуль, а гэта галоўны спосаб прыцягнуць накапленні юрыдычных асоб, іншаземных інвестараў, насельніцтва. Дакладчык перакананы, што калі нашы тутэйшыя будуць мець магчымасць набыць вартасную маёмасць і за долары, то дзяржава мае шанс атрымаць у стабілізацыйны фонд тыя долары, што прывезены з Польшчы, Турцыі і іншых краін. Але Вярхоўны Савет павінен быць надзейным гарантам, што дзяржава не ўвядзе людзей у зман.

"Прыхватызацыя" скампраметавала ідэю прыватызацыі. Таму пачатковы этап народнай прыватызацыі павінен быць хуткім і эфектыўным. З аднаго боку, трэба пачаць вялікую прыватызацыю з продажу акцый вядомых заводаў паралельна за грошы і чэкі: трактарнага, аўтамабільнага, халадзільнікаў, тэлевізараў. Наша задача -- захаваць галоўныя заводы рэспублікі, знайсці інвестыцыі для іх мадэрнізацыі і павышэння канкурэнтаздольнасці ў новых умовах, і тады яны самі стануць лакаматывам для значнай часткі нашай прамысловасці -- трэба толькі каб яны больш замыкаліся на нацыянальную эканоміку. Клапоцячыся аб стварэнні канкурэнцыі ў рэспубліцы і кіруючыся антыманапольным законам, нельга дапусціць раздраблення заводаўгігантаў, галоўная задача якіх -- захаванне канкурэнтаздольнасці на знешнім рынку. Разам з тым, мы проста абавязаны клапаціцца аб стварэнні малых прадпрыемстваў, у тым ліку канкурыруючых за атрыманне заказаў гігантаў. Як сведчыць практыка развітых еўрапейскіх краін, менавіта 70% працоўных месц даюць малыя прадпрыемствы.

З другога боку, трэба неадкладна распачаць масавую малую прыватызацыю, узяўшы за прыклад Ніжні Ноўгарад /мадэль рэформ знізу Яўлінскага--Нямцова/, тым больш, што існуе яе беларуская мадэфікацыя ў Маладзечне.

Важная задача малой прыватызацыі -- стварэнне канкурэнцыі шляхам раздраблення асноўных фондаў камунальных прадпрыемстваў і гандлю. Эфектыўнасць дасягальная, калі кожны аб'ект будзе прыватызавацца па індывідуальнаму праекту з улікам яго спецыфікі. У адных выпадках прыярытэты павінны быць аддадзены працоўным калектывам, у другіх -- актыўным інвестарам, якія здолеюць больш рацыянальна выкарыстаць уласнасць, у трэціх -- замежным інвестарам, напрыклад, с Расіі ці Германіі, якія прапануюць пастаўкі сыравіны ці новую тэхналогію, або ўзлагодняць падыходы да замацавання /ці заваёвы/ рынкаў збыту.

Ідэальнай схемы прыватызацыі не існуе, з кожнай будуць нязгодны тыя ці іншыя групы насельніцтва. Неабходна выбраць варыянт, які і з пункту гледжання эфектыўнасці, і з пункту гледжання інтарэсаў калектыву, і з пункту гледжання сацыяльнай справядлівасці з'яўляецца прымальным. Мы, лічыць С.Шушкевіч, не павінны дапусціць стварэння маленькай кучкі багацеяў і збяднення большасці насельніцтва.

У дакладзе прааналізаваны праблемы, якія трэба вырашыць у сувязі з прыватызацыяй.

Першая з іх -- узгадненне інтарэсаў калектыву прадпрыемства і астатніх грамадзян, працідзеянне перадачы часткі правоў уласніка староннім асобам і ў прыватнасці ўласнікам імянных прыватызацыйных чэкаў. Адміністрацыя будзе змагацца з іншымі буйнымі інвестарамі за права кантролю над прадпрыемствам. Ёй цяжка будзе ўсвядоміць, што нейкім людзям належыць частка ўлады толькі таму, што яны прынеслі сюды нейкія чэкі. Акрамя таго, ў межах аднаго прадпрыемства розныя групы будуць змагацца з дапамогай чэкаў за кантроль над прадпрыемствам, па-рознаму бачачы перспектыву прадпрыемства. Многія прадпрыемствы не пазбегнуць істотнага скарачэння калектываў. Магчыма, для эфектыўна працуючых калектываў мэтазгодна прадастаўленне іх кіраўнікам крэдытаў для набыцця пэўнай колькасці акцый. На іншых жа прадпрыемствах па прыкладу мадэлі Баладзюра не пазбегчы змены кіраўніцтва.

Дакладчык адзначыў, што народная прыватызацыя з дапамогай імянных чэкаў ідзе на карысць у першую чаргу працоўным калектывам, таму што яны атрымліваюць 20% скідку, але ёсць небяспека, што калі акцыі раздаць толькі членам працоўнага калектыву, то пераможа імкненне да неадкладнага спажывання за кошт прыбытку.

Другая праблема -- карупцыя і спекуляцыя каштоўнымі паперамі пры адсутнасці вопыту ў большасці ўласнікаў прыватызацыйных чэкаў. На думку С.Шушкевіча, мэтазгодна продаж акцый за чэкі і рублі весці паралельна, гэта дасць магчымасць ажыццявіць аб'ектыўную каціроўку акцый і вызначыць рэальную каштоўнасць прыватызацыйных чэкаў.

Праблема не толькі ў тым, хто будзе праводзіць прыватызацыю -- камісіі Дзяржкаммаёмасці, выканкамы, галіновыя міністэрствы, праблема ў тым, падкрэсліваецца ў дакладзе, хто кантралюе ход прыватызацыі. Бескантрольнасці пры прыватызацыі павінен быць пакладзены канец. Пры рэалізацыі любога з варыянтаў прыватызацыі перавагу належыць аддаваць рыначным спосабам, г.зн. конкурсам, аўкцыёнам. Акцыі не павінны прадавацца на біржах, кантралюемых кучкай прыватных асоб.

Трэцяя праблема -- магчымасць скупкі прыватызацыйных чэкаў і, такім чынам, уласнасці буйнымі банкамі і інвестыцыйнымі фондамі, з вялікай часткай дзяржмаёмасці. У выніку атрымаецца новая калектыўная гаспадарка -- да існуючых манапалістаў дададуцца новыя. Стварэнне такіх калектыўных гаспадарак на базе ліквідуемых міністэрстваў са старым апаратам кіраўнікоў можа скампраметаваць ідэю прыватызацыі. Выхад -- стварэнне прыватных холдзінгавых кампаній, забяспечваючых увесь жыццёвы цыкл вытворчасці, уключаючы навуку.

Чацвёртая праблема -- рэгуляванне ўдзелу іншаземнага капіталу ў прыватызацыі. Пры склаўшымся курсе валют гэта цяжкая праблема. Тут неабходны пэўныя абмежаванні, каб абараніць інтарэсы беларускага насельніцтва пры продажы акцый грамадзянам як далёкага, так і блізкага замежжа. Урад можа пакінуць, напрыклад, за сабой "залатую" акцыю з тым, каб забяспечыць стратэгічны кантроль над некаторымі прадпрыемствамі. Замежныя капіталы павінны быць у першую чаргу накіраваны на стварэнне новых эканамічных аб'ектаў, у тым ліку на базе недабудаваных і ліквідуемых.

Аналізуючы неадкладныя меры па стабілізацыі грашовай сістэмы, С.Шушкевіч падкрэсліў, што часткова яны залежаць ад таго, якую альтэрнатыву на гэтай сесіі мы выбіраем пры ўваходзе ў рублёвы саюз: пераходзім на расійскія рублі ці рыхтуемся да ўвядзення нацыянальнай валюты. Пагадненні аб эканамічным саюзе, аб рублёвай зоне рыхтаваліся доўга, размоў было многа, а як высветлілася, ёсць пакуль што супярэчлівыя дэкларацыі без дэталёвай прапрацоўкі ўсіх умоў аб'яднання грашовых сістэм. Зноў, як кажуць у Расіі, "телегу поставили впереди лошади", і, здаецца, канчатковая канкрэтызацыя пытанняў пагаднення аб грашовым саюзе будзе вырашана толькі пасля выбараў у Расіі ў снежні.

Пры любым варыянце аб'яднання наіўна разлічваць на аднабаковыя выгады, аўтаматычнае крэдытаванне, атрыманне патрэбнай масы расійскіх рублёў.

Безумоўна, ва ўмовах адзінай грашовай сістэмы прыватны расійскі капітал прыйдзе ў Беларусь і значна зменіць тут сітуацыю, у тым ліку і палітычную. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што да аб'яднання грашовых сістэм, а дакладней да ліквідацыі "зайчыкаў" згодна з пагадненнем мы павінны ўзгадніць з ЦБ РФ сацыяльную /памеры пенсій і мінімальных зарплат/, валютную, мытневую і галоўнае -- грашова-крэдытную палітыку. Пытанне аб грашова-крэдытнай сістэме мае палітычны аспект, артыкул 5 Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце канстатуе, што "Рэспубліка Беларусь стварае сваю фінансава-крэдытную сістэму" і таму, відаць, вырашэнне гэтага пытання патрабуе канстытуцыйнай большасці.

Затым дакладчык вярнуўся да эканамічнага аспекту. Пакуль што ў падпісаным пратаколе наш бок абавязаўся, што ў наступным годзе дэфіцыт бюджэту не павінен перавышаць 10% УВП, а аб'ём крэдытавання бюджэту -- не больш 9%. У той жа час пакуль што Расія ніякіх абавязкаў не ўзяла. А яе афіцыйныя асобы /міністр фінансаў, намеснік міністра/ друкуюць супярэчлівую інфармацыю, у тым ліку і аб курсе абмену -- ад 1:1 да 1:4. Відаць, у гэтай справе кропку могуць паставіць толькі перамовы з прэзідэнтам Б.М.Ельцыным. Трэба было б да ўваходу ў рублёвую зону паскорыць рэформы, зменшыць інфляцыю, каб ісці поплеч з Расіей і каб нашы прадпрымальнікі змаглі на роўных размаўляць з расійскімі.

У выпадку, калі мы не ратыфікуем пагадненне, альбо, калі не будзе хутка выпрацаваны эфектыўна дзеючы механізм функцыяніравання рублёвай зоны, застанецца адно: па прыкладу краін Балтыі максімальна паскорыць правядзенне ўсяго комплексу мерапрыемстваў, звязаных з пераходам на нацыянальную валюту ў якасці адзінага законнага сродку на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

С.Шушкевіч выказаў свае меркаванні аб тым, што неабходна неадкладна зрабіць для стабілізацыі, а затым для канвертацыі грашовай адзінкі /незалежна ад таго, якой яна будзе/:

1. Банкаўская палітыка. Поўная незалежнасць Нацыянальнага банка ад урада з кантролем ВС за крэдытнай эмісіяй. Трэба рашуча пераадолець практыку новых уліванняў наяўных і безнаяўных грошай у грашовы абарот. Увесці ліміты на прамое крэдытаванне ўрада Нацыянальным банкам без адпаведнага рашэння Вярхоўнага Савета. Неабходна неадкладная перадача ўсіх дзяржаўных валютных рэсурсаў Нацыянальнаму банку. Мне, зазначыў дакладчык, наогул не зразумела, як магло атрымацца, што ўся дзяржаўная валюта знаходзіцца ў камерцыйным "Знешэканомбанку". Патрэбен нармальны, як ва ўсім свеце, кантроль Нацбанка за камерцыйнымі. Неабходна неадкладнае ўдасканаленне банкаўскай сістэмы, паскарэнне праходжання любых плацяжоў, адмена нярыначных пастаноў адносна канвертацыі.

2. Крэдытная палітыка. Льготнае крэдытаванне павінна пакрывацца з бюджэту. Устанавіць матэрыяльную адказнасць за выкарыстанне льготных крэдытаў не па мэтаваму назначэнню. А ў далейшым крэдытаваннем, як і ва ўсім свеце, павінны займацца толькі камерцыйныя банкі. Для крэдытавання інвестыцый стварыць Беларускі інвестыцыйны банк з мясцовымі філіяламі, акумулюючы ў ім у якасці актываў сродкі ад прыватызацыі. Фінансаванне значных праектаў такім банкам павінна ажыццяўляцца пад кантролем ВС. Для крэдытнага фінансавання малога бізнесу неабходна стварэнне паўдзяржаўнай інфраструктуры, здольнай аказваць яму падтрымку, і ўзяць на сябе частку фінансавай рызыкі. Неабходна спыніць льготнае крэдытаванне стратных прадпрыемстваў і па прыкладу Расіі ўвесці вексельнае абарачэнне даўгоў. Трэба значна зменшыць датацыі для падтрымкі рознічных цэн, павялічыць колькасць крэдытных аўкцыёнаў.

3. Падаткавая палітыка -- адна з прычын эканамічнага спаду вытворчасці ў гэтым годзе, і яе трэба ўдасканальваць. Тут, на думку дакладчыка, наша галоўная надзея на прафесіяналізм планава-бюджэтнай камісіі і яе экспертаў. З аднаго боку, неабходна змяншаць падаткі для вытворцаў /у гэтым годзе, па разлікам Мінфіна, 45,9% к ВНП, а ў 1992 г. -- 40,8/, і з другога -- ліквідаваць большасць падаткавых і іншых ільгот, бо зараз іх існуе больш 50 відаў. Трэба скарачаць колькасць падаткаў і асабліва тых, што ўключаюцца ў затраты вытворчасці. Зрабіць аб'ектам абкладання ў першую чаргу маёмасць і прыбытак. Падаткавая палітыка павінна стымуляваць вытворчасць і экспарт уласнай прадукцыі: так, дарэчы, лічаць саюз прамыслоўцаў, прадпрымальнікаў і прафсаюзы.

4. Бюджэтная палітыка. Непамерныя падаткі -- следства непамерных расходаў. Яны ідуць не толькі на адукацыю, здароўе насельніцтва, абарону, але ў значнай ступені зноў жа на дзярждатацыі, на пакрыццё ўбытку па клірынгу, аграрныя субсідыі, льготныя крэдыты. А ці трэба так многа пераразмяркоўваць? Колькі людзей неабходна для таго, каб спачатку сабраць, а пасля размеркаваць?

Трэба скарачаць адлічэнні ў цэнтральныя фонды пераадрасаваўшы іх на мясцовы ўзровень, павялічыць тым самым зацікаўленасць мясцовых улад у развіцці прамысловасці тэрыторый.

Нам не ўдаецца знайсці меры па "звязванню" наяўных грошай у насельніцтва. Адна з іх -- устанаўленне разумных працэнтаў па ўкладах грамадзян на ўзроўні не ніжэй тэмпаў інфляцыі. Трэба пагадзіцца, што ВС у значнай ступені не змог кантраляваць выкананне бюджэту.

5. Цэнавая палітыка. Для сапраўднага рынку і стабілізацыі грашова-крэдытнай сістэмы, як і для кардынальнага паляпшэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі неабходна поўная лібералізацыя цэн. Неэфектыўны механізм рэгулявання цэн з дапамогай гандлёвых скідак, крайняга ўзроўню рэнтабельнасці, датацыі павінен быць ліквідаваны. Падатковая палітыка не павінна спрыяць павышэнню цэн.

Гаворачы пра інтэграцыю ў сусветную эканоміку, дакладчык акрэсліў асноўныя накірункі стратэгічнай лініі, якая ўключае ў сябе развіццё эканамічных адносін на ўзаемавыгадных умовах з Расіяй, іншымі дзяржавамі былога СССР, а таксама з дзяржавамі Захаду і Усходу. Уся знешняя і, вядома, знешнеэканамічная дзейнасць павінна быць накіравана на абарону эканамічнага суверэнітэту Беларусі, г.зн. на адзін галоўны прыярытэт -- рэсурсы і рынкі.

Мы будзем імкнуцца, сказаў С.Шушкевіч, да адкрытай эканомікі, да інтэграцыі ў сусветную, але тактыка павінна быць разумнай: рынкавыя знешнеэканамічныя зносіны павінны служыць інтарэсам дзяржавы, валютная выручка -- вяртацца ў краіну, мытневыя тарыфы -- стымуляваць імпарт тэхналогій і абсталявання, а не алкаголю, ці прадметаў раскошы, дэмпінгавым цэнам павінен быць пастаўлен заслон.

Асобны раздзел даклада прысвечаны стварэнню справядлівай сістэмы сацыяльнай абароны.

Зніжэнне ўзроўню вытворчасці азначае далейшае падзенне аб'ёму не толькі спажывання большасці насельніцтва, але і спажывання з сацыяльных крыніц /ахова здароўя, адукацыя і г.д./. Паглыбляецца сацыяльнае расслаенне грамадства і, на жаль, сёння не заўсёды лепш жыве той, хто лепей працуе рукамі, галавой, здольнасцямі да арганізацыі вытворчасці, бізнесу. Як і раней, больш атрымліваюць і лепш забяспечаныя тыя, хто ставіць подпісы, выдае ліцэнзіі, дазволы.

У рэспубліцы склалася катастрафічная сітуацыя ў сістэме аховы здароўя -- і ў бальніцах, і ў аптэках вялікі дэфіцыт або поўная адсутнасць самых неабходных лекавых прэпаратаў.

Па дадзеным Дзяржкамстата, за першае паўгоддзе ў рэспубліцы памерлі на 11,4% больш чалавек, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Спад вытворчасці ў фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прамысловасці за 1992 г. склаў 31,8%. З-за вялікіх падаткаў, мытных пошлін практычна выцеснены са спажывецкага рынку жыццёва важныя прэпараты, на іншыя цэны ўзраслі так, што ў дватры разы перавышаюць кошт аналагічнай увозімай прадукцыі.

Для выпраўлення становішча з лекамі неабходна лічыць гэтую галіну прамысловасці адной з самых прыярытэтных. Для яе рашэння трэба выдзяляць неабходныя валютныя рэсурсы, перагледзець падаткі на дабаўленую вартасць на лекавыя сродкі і медыкаменты, разгледзець пытанні аб увядзенні льгот на падатках на прыбытак на перыяд тэхнічнага пераўзбраення, рэканструкцыі гэтых прадпрыемстваў або выдзяляць беспрацэнтныя крэдыты. Трэба прадугледзець у сацыяльным страхаванні частковую кампенсацыю кошту лекаў.

Зонай пастаяннай увагі і кантролю ВС павінен быць Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, дзе сёння акумулююцца значныя сродкі. Важна каб гэты фонд эфектыўна распарадзіўся гэтымі сродкамі, але і яму трэба дапамагчы стварыць рэзервы.

Народная прыватызацыя, стварэнне шырокага кола ўласнікаў дасць нам сярэдні клас, які не трэба будзе падтрымліваць з сацыяльных крыніц. А ўся сацыяльная праграма зможа быць накіравана толькі на пенсіянераў, беспрацоўных, моладзь, тады яна будзе не тормазам эканамічных рэформ, а іх маторам. Таму сацыяльны блок павінен быць цесна ўвязаны з эканамічнымі рэформамі. Нельга дапусціць дэградацыі грамадства: эканомія на адпачынку дзяцей і адукацыі заўтра абернецца выдаткамі на барацьбу са злачыннасцю.

У гэты цяжкі крызісны момант, адзначыў дакладчык, трэба наладзіць сапраўды цеснае ўзаемадзеянне ўсіх форм улады. Адна з форм -- сумесныя пасяджэнні прэзідыумаў Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў -- патрабуе ўдасканалення: звужэння кола ўдзельнікаў з боку парламента і ўрада і дапаўнення прадстаўнікамі ад прафсаюзаў, дырэктарскага корпусу, мясцовых улад, прадпрымальнікаў. Такім чынам, можна на пераходны перыяд стварыць Вышэйшы эканамічны савет -- дарадчы орган, рэкамендацыі якога могуць служыць падставай для ўзаемаўзгодненых пастаноў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Прэзідыума Савета Міністраў, міністэрстваў.

Пры ўсім гэтым, ніяк не абысціся без абнаўлення ўрада -- людзьмі з сапраўды рыначным мысленнем. Пачытайце беларускую рыначную прэсу, прапануе ў заключэнне С.Шушкевіч, паглядзіце, як творча адаптаваліся да рынку многія нашы дырэктары і кіраўнікі мясцовых уладаў /я ўжо не кажу пра прадпрымальнікаў/ і вы зразумееце, дзе знаходзяцца патэнцыяльныя сучасныя беларускія кіраўнікі вышэйшага ўзроўню.

---

* *Друкуецца ў пераказе. Поўны тэкст -- у "Звяздзе", "Народнай газеце" і "Белорусской ниве".*

## С телетайпной ленты «ІКА«Р»а

**Экипажи гомельского авиаотряда начинают осваивать международные линии.**

В этом году уже несколько десятков рейсов были совершены в Германию и Италию. В планах на следующий год -- полеты в Бельгию, чартерные рейсы в Тель-Авив.

**Витебский фестиваль "Славянский базар" принят в Международную федерацию фестивальных организаций.**

Это дает ему возможность контактировать с европейскими музыкальными фестивалями, музыкальными издательствами, студиями звукозаписи, телекомпаниями, международными корпорациями спонсоров.

Объявлено время проведения очередного фестиваля -- "Славянский базар-94". Он пройдет в Витебске с 19-го по 26 июля.

**15 ноября в концертном зале Белгосфилармонии состоится выступление Государственного концертного оркестра Республики Беларусь под руководством Михаила Финберга.**

Оркестр подготовил новую оригинальную джазовую программу под названием "Джем-сейшн". В концерте примет участие известный исполнитель Валерий Дайнека.

**В Москве состоялась презентация нового журнала "Праваслаўе ў Беларусі і свеце".**

Издание учреждено Белорусским православным братством Трех Виленских Мучеников, польским Кирилло-Мефодиевским православным братством и представителями белорусских православных церквей зарубежья. Его главная цель -- объединение всех православных белорусов мира.

**Наталья Гетц, руководитель группы "Пять лет Чернобылю", привела в Минск очередной конвой с гуманитарной помощью из немецкого города Коттбус, земля Бранденбург.**

Груз, а это лекарства, чистые фруктовые соки, киви, апельсины, одежда, предназначен для маленьких пациентов республиканского детского онкогематологического центра и детского отделения НИИ онкологии.

## ККК: рублевая зона -- за кадром

**15 ноября в Москве должно состояться очередное заседание Координационно-консультативного комитета СНГ.**

Вице-премьерам предстоит согласовать проекты двух десятков документов, подготовленных группами экспертов к встречам глав государств и глав правительств Содружества. Правда, вызывает недоумение то, что в предварительной повестке дня отсутствуют вопросы, связанные с созданием рублевой зоны нового типа. Впрочем, это обстоятельство не повлияло на решимость членов ККК собраться вместе. По предварительной информации, полученной в Минской штаб-квартире СНГ, свое участие в заседании комитета подтвердили представители всех стран Содружества.

*Юрий БЕХТЕРЕВ*

## Интеграция в небе Европы

**По инициативе Международной организации гражданской авиации в вильнюсской гостинице "Каролина" состоялась встреча представителей воздушного транспорта Литвы, Латвии, Эстонии, Беларуси, Польши, Украины, России, Финляндии и Швеции.**

Специалисты обсудили проблемы интеграции новых европейских стран в воздушное пространство континента. Шел разговор и о структуре, и классификации воздушного транспорта, координации гражданской и военной авиации, подготовке кадров, системе связи.

*Андрей КОРСАК*

## 29-68-13

**Это номер телефона прямой связи с Верховным Советом Республики Беларусь. "Р" вновь вынуждена напомнить его читателям.**

Вопросы, возникающие по ходу сессии, просьба адресовать по указанному номеру. Наши политические обозреватели и парламентские корреспонденты просто не в состоянии отвечать на тот шквал звонков, который обрушивается на редакцию после выступления иного особо красноречивого депутата.



## 8000 марок для инвалида

**Первая реальная польза от проходящей в Минске выставки "Современная медицина -- Чернобылю" зафиксирована 12 ноября.**

В этот день представитель СП "БЕЛРЕАС" Михаил Гохман от имени немецкой фирмы "Майра" вручил исполнительному директору Белорусской федерации физкультуры и спорта инвалидов Юрию Буранову гоночную инвалидную коляску "Майра".

Стоит это ажурное трехколесное изделие почти как автомобиль -- около 8000 дойчмарок. Теперь на ней будет тренироваться и выступать в соревнованиях лучший гонщик 1993 г. на инвалидных колясках Иван Котегов из Березино.

Подарок инвалиду -- это не просто широкий жест фирмы. СП "БЕЛРЕАС" -- не совсем обычное предприятие. Свыше половины его сотрудников -- инвалиды. Изготавливают сами и торгуют импортными инвалидными колясками, средствами реабилитации инвалидов, медицинским оборудованием... Михаил Гохман, передававший подарок "Майры", опирался на костыли...

*Анатолий ДРОЗДОВ*

## Вышла "Каралінка"...

**На польском, белорусском и английском обратилась со словами приветствия к собравшимся 11 ноября в русском драматическом театре Минска посол Республики Польша Эльжбета Смулэк. Здесь состоялся вечер по случаю 75-летия со дня провозглашения независимости нашего западного соседа.**

В отличие от традиционных для такого рода мероприятий приемов-фуршетов глава дипредставительства РП решила придать привычному протоколу чисто женский шарм.

Театр был полон -- руководители министерств и ведомств, представители дипломатического корпуса, общественных организаций, Союза поляков Беларуси, пресса. Его сцена недолго оставалась местом официального действия. После кратких приветствий, в том числе и от Вячеслава Кебича, а также сжатого реферата на тему "11 ноября -- день польского компромисса" вниманием участников вечера овладел молодежный ансамбль песни и танца "Каралінка" из Бреста. И не раз и не два "сорвал" бурные аплодисменты присутствующих своей по-детски непосредственной искренностью.

В фойе состоялся вернисаж -- выставка художников польского происхождения, живущих в Беларуси. Непринужденной атмосфере праздника Независимости способствовал "кілішак віна" /цитирую строчку программы вечера/.

*Александр ПАЛЬЧЕВСКИЙ*

## От Иркутска до пинских болот

**75-летний юбилей отпраздновали воины Иркутско-Пинской отдельной механизированной бригады -- одного из наиболее боеспособных соединений белорусской армии.**

Первым командиром бригады, тогда дивизии, был маршал Советского Союза Блюхер. Боевой путь Иркутско-Пинской прошел по предгорьям Кавказа, через Крым, Донбасс, Белорусское Полесье, Кенигсберг, Берлин. В 1968-м -- Чехословакия...

Сейчас по-разному можно относиться к истории несуществующей уже Советской Армии, но если отбросить в сторону так называемые политические моменты, в памяти останутся святой воинский труд и кровь, пролитая за Отечество. Об этом говорили ветераны дивизии на встречах с личным составом.

На торжественном собрании, посвященном славной дате, министр обороны Павел Козловский высоко оценил заслуги старых воинов и отметил, что нынешний личный состав прославленной бригады берет пример с ветеранов. На собрании также выступил председатель Комиссии Верховного Совета Республики Беларусь по вопросам национальной безопасности, обороны и борьбы с преступностью Мечеслав Гриб.

*Глеб ПОКРОВСКИЙ*

## Кто дает и кто берет

**В следственный изолятор угодил авторитет минского уголовного мира, известный в своей среде под кличкой Мирон .**

Этот "куратор" черного валютного рынка задержан за дачу взятки. Под арестом находится и мздоимец -- сотрудник Минской ГАИ.

*Максим ТРАПЕЗНИКОВ*

## По-восточному тонкие параллели

**"Наши страны, исповедующие одни и те же ценности либеральной демократии и принципы рыночной экономики, имеют все основания для дальнейшего укрепления дружбы и поднятия ее до уровня тесного партнерства". Именно так заявил в своей речи на церемонии вручения верительных грамот Станиславу Шушкевичу Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Корея Ким Сок Кю.**

В ответном слове было подчеркнуто, что опыт национального становления корейского народа и государства, закрепление в нем демократических принципов являются хорошим примером того, как нужно идти к рыночной экономике.

Посол, отвечая на вопросы журналистов, обрисовал перспективы двусторонних отношений как "прекрасные" и закрепил их аргументом о намерении Южной Кореи закупить партию минских тракторов.

*Александр ВАСИЛЬЕВ*

## И ни слова о политике, ребята!

**В ноябре, возможно, возобновится трансляция 8-го канала, закрытого еще в январе этого года по "многочисленным просьбам телезрителей".**

Право вещания /6 часов вечером и 3 -- утром/ получили три телекомпании: "Рамос", ММ-4 и МТК. Отметим, что один из пунктов договора гласит: "Компании воздерживаются при проведении вещания от организации политических программ и предоставления эфира политическим партиям, движениям и парламентским фракциям, а также каких-либо комментариев официальных действий государственных и властных структур".

*Юрий ЛЕШКЕВИЧ*

## Благодарность еврейского народа

**Президент Объединения еврейских организаций и общин Беларуси Л.Левин и большая группа бывших узников еврейского гетто направили благодарственное письмо Председателю Верховного Совета С.Шушкевичу, Председателю Совета Министров В.Кебичу, министру иностранных дел П.Кравченко, министру информации А.Бутевичу, членам правительственной комиссии по проведению мероприятий, посвященных Дням памяти евреев, погибших в Минском гетто.**

В письме также содержится благодарность Минскому горисполкому, владыке Филарету, всем честным людям, разделившим горе еврейского народа.

## Города, которые себя убивают...

**Сегодня завершается немецко-белорусский симпозиум, посвященный безопасной работе установок с экологически опасными веществами.**

Как известно, такие города Беларуси, как Солигорск, Новополоцк, Гродно, Могилев, Гомель и другие, где расположены крупные химические предприятия, -- экологически небезопасны. Загрязняя окружающую среду, некоторые химические предприятия являются также попросту "бочками с порохом", способными в любой момент взорваться.

Основные причины -- изношенное оборудование, устаревшие технологии, несоблюдение режимов эксплуатации установок и техники безопасности. Все эти проблемы стали предметом обсуждения участников симпозиума. В результате создана совместная комиссия в компетенции которой -- рассмотреть представленные проекты по обеспечению безопасной работы установок с экологически опасными веществами.

*Андрей СЕРЕДА*

## Ку-ка-ре-ку-ла-93

**Патрульный милицейский "газик" чуть притормозил:**

**-- Здесь -- предельное внимание, -- учил новичка кандидат в пенсионеры. -- Это самый воровской район города... Кстати, что это стучит?**

**-- Минуточку, -- попросил молодой и приоткрыл дверцу. -- Ну вот... Покрышки сняли.**



**Виктор БЕРЕЗИН**
Минск **29**

## Курсы валют на утро 12 ноября

| Банк | $ 1 | $ 2 | $ 3 | DM 1 | DM 2 | DM 3 | Рос. рубль 1 | Рос. рубль 3 | Телефон |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| "КОМПЛЕКС" | 3720 | 4090 | | | 2420 | | 3.00 | | 321-321 |
| | | 4750 | 3820 | 2205 | 2810 | 2265 | | 3.15 | |
| "БЕЛБИЗНЕСБАНК" | 3800 | 4180 | 3990 | 2330 | 2560 | 2450 | 3.2 | 3.5 | 298-160 |
| "БЕЛПРОМСТРОЙБАНК" | 3600 | --- | 3760 | 2180 | --- | 2300 | --- | --- | 332-174 |
| "БЕЛАРУСЬ" | 3927 | 4480 | --- | 2380 | 2736 | --- | --- | 4.50 | 239-250 |
| БЕЛНАРБАНК | 3550 | --- | 3850 | 2110 | --- | 2285 | --- | 3.20 | 238-457 |
| "ПОИСК" | 3750 | --- | 3860 | 2215 | --- | 2290 | 3.00 | 3.30 | 633-473 |
| "ПРИОРБАНК" | 3800 | 4180 | 3810 | 2360 | 2590 | 2400 | 3.20 | 3.80 | 690-964 |
| "СЕВЕРО--ЗАПАД" | 4018 | 4508 | 4500 | 2352 | 2646 | 2650 | --- | --- | 268-544 |

*Агентство Гревцова*

**1. Покупка за наличный расчет. 2. Покупка по чековой книжке. 3. Продажа.**

## Медицинский прогноз погоды на 13.11.93 г.

По сведениям Гидрометцентра, погода в Минске и области существенно не изменится. Незначительное снижение атмосферного давления приведет к уменьшению содержания кислорода в воздухе.

В такие погодные условия самочувствие метеозависимых больных с заболеваниями сердечно-сосудистой системы несколько улучшится.




Однако в целях метеопрофилактики по-прежнему рекомендуются тепловые гидропроцедуры, прием успокаивающих /настойка пиона, пустырника, валерианы/ и сосудорасширяющих лекарственных препаратов.

